ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ ЯК МЫСЛІЎЦА

ВІКТАР АДЗІНОЧАНКА

***Анатацыя:*** Творчасць Кірылы Тураўскага разглядаецца з пункту гледжання працэсаў фарміравання беларускай інтэлектуальнай традыцыі. Кірыла Тураўскі з'яўляецца не толькі выбітным царкоўным дзеячам і таленавітым пісьменнікам, але і хрысціянскім мысліўцам, у творах якога быў дадзены глыбокі аналіз сучасных яму светапоглядных і грамадскіх праблем.

***Ключавыя словы:*** культурная традыцыя, хрысціянскі мысліўца, светапоглядныя праблемы, суаднясенне рэлігійнай і свецкай улады.

# KIRILL OF TURAŬ AS A THINKER

***Abstract:*** Kirill's work is considered from the point of view of the formation of the Belarusian intellectual tradition. Kirill of Turaŭ was not only an outstanding church figure and a talented writer but also a Christian thinker whose works contain a profound analysis of philosophical and social problems of his time.

***Keywords:*** Cultural Tradition, Christian Thinker, Philosophical Problems, Ratio of Religious and Secular Authorities.

Кірыла Тураўскі – адна са знакавых постацяў у гісторыі нашай культуры. Звычайна ён разглядаецца як красамоўца і царкоўны дзеяч. Даследуюцца перш за ўсё мастацкія сродкі, якія ён выкарыстоўваў. Зараз неабходна прааналізаваць яго спадчыну як частку не толькі літаратурнай, але і інтэлектуальнай традыцыі на Беларусі. Тым больш што да нас дайшла даволі вялікая колькасць яго твораў, у якіх ён выказваўся па пытаннях светапогляднага характару.

Нам трэба асэнсаваць актуальнасць праблемы фарміравання беларускай культурнай традыцыі. Мы можам казаць пра наяўнасць своеасаблівага сэнсавага разрыву паміж мінулым і сучаснасцю. Бо да нядаўняга часу Беларусь з'яўлялася часткай каласальнага палітычнага ўтварэння пад назвай "Савецкі Саюз". Гэтым было абумоўлена і ўспрыманне нашай культурнай традыцыі, яна разглядалася не сама па сабе, а як частка больш шырокіх працэсаў: культурнай традыцыі народаў СССР альбо ўсходнеславянскай. Цяпер жа паўстала неабходнасць культурнага самавызначэння. І справа не зводзіцца толькі да адмаўлення ад тых схем разважанняў, якія існавалі ў савецкім грамадстве. На першы план выходзіць задача асэнсавання спецыфічных рысаў нашай культуры.

Мы зыходзім з таго, што аснову беларускай культурнай традыцыі складае хрысціянства. Кірыла Тураўскі – адзін з першых і найбольш выдатных хрысціянскіх мысліўцаў на нашых землях. Ён працаваў у час, калі, з аднога боку, хрысціянства ў нас пачало толькі распаўсюджвацца, і таму актуальнай была паленіка з язычніцтвам, а з другога – ужо сфарміравалася хрысціянская інтэлектуальная традыцыя праз Айцоў Царквы, творы якіх выкарыстоўваліся Кірылам Тураўскім. Зараз, на наш погляд, пытанне трэба ставіць не столькі аб тым, наколькі арыгінальнымі былі ягоныя думкі, колькі аб іх месцы ў духоўным кантэксце эпохі.

З прыняццем хрысціянства адбылося ўваходжанне Беларусі ў прастору еўрапейская культуры. Трэба падкрэсліць, што шмат якія яе рысы мы ўспрымаем як відавочныя і агульначалавечыя. Але яна мае сваю спецыфіку, якую трэба прааналізаваць. Патрабуе асэнсавання трактоўка Кірылы Тураўскага як філосафа. Ён уключаецца ва ўсе падручнікі па гісторыі філасофіі на Беларусі. У той жа час, калі зыходзіць з таго, што "*гісторыя філасофіі Беларусі сапраўды ёсць філасофія, мы павінны не толькі знайсці для яе месца ў агульным кампендыуме філасофскіх ведаў, але і тэарэтычна ўпісаць айчынны філасофскі працэс ва ўніверсальную сістэму філасофіі*" (Евароўскі, 2014: 11–12). І ў гэтай сувязі трэба асэнсаваць праблему, што такое філасофія. Калі браць у фармальным сэнсе, гэта любоў да мудрасці (грэч. *phileo* – люблю і *sophia* – мудрасць). І тады, безумоўна, мы павінны аднесці Кірылу Тураўскага да ліку філосафаў. Але ёсць вызначаная філасофская

традыцыя, якая мае свае канкрэтныя рысы і канкрэтныя постаці. Праблема заключаецца ў тым, як упісаць беларускіх мысліўцаў у гэту традыцыю. Адносна Кірылы Тураўскага мы можам адзначыць, што ў яго творах разглядаліся пытанні, уласцівыя для хрысціянскай думкі, і даваліся на іх адказы. Зараз для нас важным з'яўляецца сам той факт, што гэтыя пытанні абмяркоўваліся ў нашай інтэлектуальнай традыцыі.

Хрысціянства прадугледжвае распаўсюджванне пісьменнасці і ведаў. Кірыла Тураўскі надзвычай высока ацэньвае імкненне чалавека да мудрасці: "*Духоўнай працай умацоўваецца цела. Навука – шлях да славы. Яна стварае багацці, дапамагае пераадольваць жыццёвыя перашкоды*"(Кірыла Тураўскі, 2010б: 130).[1] Пры гэтым ён выходзіць з біблейскага палажэння, што "*пачатак мудрасці – страх Гасподні*" (Выс. 1, 7). Сябе ён ацэньвае вельмі крытычна: "*Я ж, акаянны// Розум пакінуў дзеля жаданняў// Уцехамі плоці звёў сябе// У смуродную ціну грахоўную// І далёка блудзіў ад ласкі Тваёй*" (Кірыла Тураўскі, 2010а: 146).

Кірыла Тураўскі даў апісанне арыянства – адной з першых і найбольш сур'ёзных ерасяў у гісторыі хрысціянства, але не зусім дакладна. Ён сцвярждаў, што, паводле Арыя, "*Сын Божы – гэта ўсе зямныя і нябесныя істоты*" (Кірыла Тураўскі, 2010в: 126), такім чынам прыпісваючы яму пантэістычныя погляды. Крытыка арыянства Кірылам Тураўскім для нас цікавая таму, што ў выглядзе антытрынітарызму яно было распаўсюджана на нашых землях у часы Рэфармацыі. Антытрынітарыямі былі такія вядомыя дзеячы беларускай культуры, як Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Зараз на пазіцыях арыянства стаяць Сведкі Іеговы – нешматколькасная (усяго на Беларусі на пачатак 2014 было зарэгістравана 27 суполак), але, па прычыне сваёй місіянерскай актыўнасці, адна з найбольш заўважных рэлігійных арганізацый у Беларусі.

Надзвычай актуальнай з'яўляецца для нас тая гістарычная праблематыка, як адказ на якую была была напісана "Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага". У гэты час цэнтр улады паступова перасоўваўся з Кіева на паўночны ўсход, ва Уладзімір. Недзе ў 1164 годзе уладзіміра-суздальскі князь Андрэй Багалюбскі замест грэка Лявона зрабіў растоўскім епіскапам святара Федарца. Былі груба і адкрыта парушаны кананічныя нормы хрысціянскай царквы. Гэта прывяло да канфлікту з кіеўскім мітрапалітам і канстанцінопальскім патрыярхам. У сваёй "Прыпавесці" Кірыла Тураўскі абвінаваціў Андрэя Багалюбскага і Федарца ў незаконным захопе царкоўнай улады і парушэнні вызначаных Богам норм, выкарыстоўваючы параўнанні з Бібліі: "*Як некалі Адам без дазволу ўвайшоў у забароненае, гэтак і цяперашні царкоўнік увайшоў на епіскапскую пасаду, не будучы варты*

[1] Цытаты з прац Кірыла Тураўскага даюцца ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

*яе. Ён утойвае ўласныя грахі, не трымаецца Божых запаведзяў. Толькі з карыслівымі мэтамі, дзеля высокага і заможнага жыцця здабыў епіскапскі сан*" (Кірыла Тураўскі, 2010б: 136). Трэба падкрэсліць, што пытанне аб суаднясенні царкоўнай і свецкай улады, якое тут пастаўлена, мае для нас актуальнасць менавіта ў дачыненні да нашага рэгіёна. З пункту погляду рускай царкоўнай і палітычнай традыцыі, дзеянні Андрэя Багалюбскага атрымліваюць станоўчую ацэнку. Бо для Расіі характэрна падпарадкаванасць царквы дзяржаве, свецкія ўладары вельмі часта вырашалі царкоўныя справы. Але для нас сітуацыя не з'яўляецца такой адназначнай. Кірыла Тураўскі ў сваёй прыпавесці выступіў менавіта як дзеяч хрысціянскай царквы, якая мае наднацыянальны характар і клапоціцца перш за ўсё аб выкананні той місіі, якая была дадзена ёй Богам.

Мы разглядаем Кірылу Тураўскага як аднаго з пачынальнікаў нашай інтэлектуальнай традыцыі. Зробім дзве заўвагі. Па-першае, традыцыя – гэта не тое, што мае характар наяўнасці, яе бачанне фарміруецца праз прызму праблем сучаснасці. Па-другое, хрысціянства, дзеячам якога быў святы Кірыла, не з'яўляецца традыцыйнай рэлігіяй і, у адрозненне ад язычніцтва, не вырастае са штодзённага жыцця. Праблемы, пра якія пісаў Кірыла Тураўскі, маюць пазачасавы характар. У гэтым – адна з прычын актуальнасці яго як мысліўцы.

***Бібліяграфія***


1. Еўвароўскі, Валерый (2014). "Метатэорыя нацыянальнай філасофіі Беларусі", *Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. Серыя 1. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія,* № 3: 11–17.
2. Кірыла Тураўскі (2010а). "Малітвы на ўвесь тыдзень", у Іван Саверчанка (рэд.), *Беларуская літаратура X–XV стст.* Мінск: Беларуская навука.
3. Кірыла Тураўскі (2010б). "Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага", у Іван Саверчанка (рэд.), *Беларуская літаратура X–XV стст.* Мінск: Беларуская навука.
4. Кірыла Тураўскі (2010в). "Слова на сабор 318 святых", у Іван Саверчанка (рэд.), *Беларуская літаратура X–XV стст.* Мінск: Беларуская навука.